Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 7 (20). Вільня, Серада, 27-га студзеня 1926 г. Год II.

## На правільным шляху.

Няма, здаецца, у межах Польшчы ніводнага чалавека, які не здаваў-бы сабе справы з таго, які страшэнны эканамічны крызіс перажывае Польская дзяржава.

Мы ня раз затрымліваліся ўжо над тымі спосабамі, якімі пануючая ў Польшчы буржуазія хоча ратаваць сваю айчызну ад гэтага крызісу. Усе яны намячаюць адзін шлях: увесь цяжар „санацыі“ ўзваліць на плечы працоўных, прымусіць работнікаў працаваць даўжэй у фабрыках і заводах ды за меншую плату, абрэзаць пэнсіі дзяржаўным урадоўцам — ведама, драбнейшым, ды зьменшыць выдаткі на прасьвету вёскі, павялічыўшы адначасна падаткі з сялян і... аберагаючы ад „лішніх“ падатковых цяжараў кішані абшарнікаў, фабрыкантаў, капіталістаў...

Польскія буржуазныя „сэнатары“ ў вадзін голас кажуць, што Польшча толькі тады здолее выратавацца ад гаспадарчага развалу, калі *падыме сваю вытворчасьць*, гэта знача: калі польскія фабрыкі будуць мець магчымасьць вытвараць больш тавараў. Але дзеля таго, каб фабрыканты гэта рабілі, ім трэба мець пэўнасьць, што выробленыя тавары мецімуць збыт, а ня будуць ляжаць гадамі ў складах бяз ніякага руху. Вось-жа ў гэтым-то і ўся труднасьць, каб *знайсьці рынкі збыту*. Уся Эўропа перапоўнена вырабамі старых прамысловых краёў (Англіі, Нямеччыны, Францыі і інш.), і для польскага тавару *мейсца ў ёй няма*. Ня мае Польшча, як ведама, і заморскіх калёніяў, куды можна-б было сплаўляць лішак сваей вытворчасьці.

Вось-жа буржуазныя валадары Польшчы і надумалі такі „геніяльны“ выхад з палажэньня: трэба, кажуць яны, каб работнік у Польшчы *працаваў даўжэй*, чым у другіх дзяржавах, ды каб за сваю катаржную працу *браў таньней*, дык тады капіталістам і фабрыкантам Польшчы лёгка будзе канкураваць на замежных рынках з таварамі чужых дзяржаў, бо польскі тавар будзе таньнейшы!

Ня трудна зразумець наіўнасьць гэтае камбінацыі і небясьпечнасьць яе для працоўных наагул. Перад усім чужыя дзяржавы вельмі лёгка могуць не дапусьціць на свае рынкі хоць-бы і найтаньнейшых польскіх тавараў: ім даволі *павялічыць прывознае мыта* (таможанныя зборы пры прывозе), і цэны зразу зраўняюцца! А адначасна замежныя фабрыканты, разласаваўшыся тым, што іх польскія калегі коштам фізычнага выраджэньня работнікаў Польшчы добра набіваюць свае кішані, пачнуць—дзеля „ратаваньня“ сваей прамысловасьці ад небясьпечнае канкурэнцыі—таксама павялічываць дзень працы і абрэзываць плату сваім рабочым....

Ня трэба быць вялікім эканамістам, каб усё гэтае зразумець,—зразумець, што Польшча крыху *прыпазьнілася* з сваей прамысловасьцяй, і мейсца на сусьветных рынках для яе *няма*! Лёгка такжа зразумець і тое, што адзіным выхадам для польскае прамысловасьці зьяўляецца *стварэньне свайго ўласнага ўнутранага рынку*, гэта знача: Польшча мусіць так падняць дабрабыт свайго сялянства, якое прадстаўляе галоўную масу яе насяленьня, каб тое сялянства магло купляць у вялікшай меры вырабы польскіх фабрык, плод працы сваіх-жа работнікаў.

Але дзеля гэтага трэба зрабіць рашучы ўдар па кішані капіталістаў, фабрыкантаў і зямельнае буржуазіі—абшарнікаў. Трэба перад усім *даць зямлю сялянству* — так, каб яно ня толькі не вяло паўгалоднае жыцьцё, як цяпер, а магло павялічыць спажываньне ўсіх тавараў і нават адкладаць на чорны дзень сякі-такі грош. Трэба, пакуль гэта ня станецца, цяжар ратаваньня польскага скарбу ўзлажыць на тых, каму і сёньня цераз меру сытна і салодка жывецца....

Па такім шляху, як паведамляе эндэцкі „Dzieńnik Wileński“ ў перадавіцы, пасьвячонай „палітыцы саветаў“ (№ 18), пайшлі кіраўнікі палітыкі Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік—у асобе камуністычнае партыі. Падаем тут даслоўную выметку з газэты заклятых ворагаў камунізму, якія, аднак, гэтым разам здолелі зразумець усю правільнасьць пастаноўкі народнае гаспадаркі ў радавых рэспубліках—уладай работнікаў і сялян.

„Праграма саветаў зводзіцца да таго, каб за ўсялякую цану стварыць варункі дзеля трывалага супрацоўніцтва камуністычнае партыі з расейскім сялянствам. Канечнасьць такога цеснага супрацоўніцтва прызнана ня толькі дзеля таго, што сяляне прадстаўляюць вялізарную большасьць насяленьня Расеі і што цяжка было-б весьці палітыку на далейшую мэту супраць іх волі,—але галоўным чынам дзеля таго, што *гаспадарчая адбудова дзяржавы вымагае ўзнаўленьня вывазу збожжа (заграніцу) і павялічэньня пакупное сілы насяленьня;* а гэтае мэты можна будзе дасягнуць толькі тады, *калі селяніну дадуць магчымасьць інтэнсыўнае працы, калі яму забясьпечаць такія варункі жыцьця, пры якіх павялічэньне вытворчасьці зямляробства станецца для яго яўна карысным.*

„Па якой лініі мае ісьці гаспадарчая праграма саветаў? Адказ дае нам прынцыповая прамова Сталіна, бясспрэчна найбольш уплывовага сяньня савецкага палітычнага дзеяча, сказаная на кангрэсе камуністычнае партыі. Сталін вельмі сільна падчыркнуў, што Расея зусім ня мае ахвоты надалей аставацца дзяржавай выключна сельска-гаспадарскай, а *хоча мець уласныя сродкі вытворчасьці*, ды што ператварэньне Расеі з хлебаробскага краю ў прамысловы зьяўляецца падставай палітыкі саветаў. Каб-жа не даваць падставы дзеля сумляваньняў, дадаў яшчэ Сталін, што *Расея будзе вытвараць сама ня толькі патрэбныя ей тавары*, але павінна імкнуцца да таго, каб рабіць у сябе нават машыны, патрэбныя іменна дзеля вытвараньня гэных тавараў“.

„На кангрэсе Сталін заявіў, што *Расеі сёлета будуць патрэбны яшчэ прынамся 400,000 выкваліфікаваных работнікаў*“...

Эндэцкі орган вельмі паважна абгаварывае гэты плян эканамічнае гаспадаркі саветаў і заяўляе, што „ня можа ня верыць у шчырасьць яго“.

І зусім слушна. Але слушна такжа, што—пры ўсей правільнасьці гэтага адзінага магчымага шляху эканамічнае адбудовы радавых рэспублік—зьдзейсьніць яго можа *толькі ўлада работнікаў і сялян*. І дзеля гэтага гэты справядлівы і разумны шлях зьяўляецца абсалютна *недаступным для Польшчы*, пакуль у ёй улада не пяройдзе ў рукі работнікаў і сялян.

Польская-ж буржуазія яго ніколі і не папробуе зьдзейсьніць для яе—гэта не ратунак, а—*сьмерць*! Наадварот: і работнікі і сяляне роўна зацікаўлены ў зьдзейсьненьні паданага вышэй пляну саветаў, бо ён робіць непатрэбнай пануючую сёньня ў Польшчы буржуазію, адпіхае яе на задні плян, высоўваючы наперад запраўдных тварцоў усялякага багацьця—*працоўныя масы*.

## Да мартыралёгіі беларускае школы.

**Інтэрпэляцыя № 24** дэпутата Рак-Міхайлоўскага і таварышоў з Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Рэліг. Вызн. і Публічнае Асьветы ў справе сьведамага і злоснага нішчэньня беларускага школьніцтва адпаведнымі школьнымі ўладамі.

З мамэнтам заняцьця беларускіх зямель польскаю ўладаю распачынаецца пэрыяд нячуваных перасьледаваньняў беларускіх інстытуцыяў, а асабліва беларускага школьніцтва. Гэтая пляновая і сыстэматычная дзеяльнасьць польскае ўлады разьлічана на зьнішчэньне ў як найкарачэйшым часе беларускае культуры і на прымусовае спольшчаньне краю.

Асабліва драконскімі і рэакцыйнымі зьяўляюцца распараджэньні ўладаў у адносінах да прыватнага беларускага школьніцтва. Улада зачыняе сотні беларускіх школ і сьведама з зласьлівай мэтай высылае з краю выкваліфікаваных пэдагагічных сіл, каб потым, тлумачучыся нястачай вучыцялёў, ператвараць застаўшыяся яшчэ пачатковыя беларускія школы—у польскія. Гэтакім чынам стараецца ўлада тармазіць, а навет зусім зьнішчыць развіцьцё беларускае культуры, не гаворачы ўжо навет аб тым, што вучэньне дзяцей сялян-беларусаў у чужой і нязнанай ім польскай мове дапамагае шырэньню непісьменнасьці сярод беларускіх сялянскіх масаў. У сваіх дэнацыяналізуючых імкненьнях польская ўлада ня толькі паслугоўваюцца мэтадамі старога царызму, але пайшлі навет далей за слаўную сыстэму царскае Расеі абмаскоўліваньня і трыманьня ў цемнаце шырокіх масаў паняволеных народаў.

Найлепшым доказам гэтага зьяўляюцца наступныя цыфравыя дадзеныя, якія выразьней, чым усялякія словы, характарызуюць цяперашні стан беларускага школьніцтва: польская ўлада зачыніла 382—даслоўна трыста восемдзесят дзьве пачатковыя беларускія школы, з застаўшыхся яшчэ ператвораны ўжо ў гэтым школьным годзе 18 урадавых беларускіх школ у двуязычныя, што зьяўляецца пераходнай ступеняй да поўнага спольшчаньня іх. Пасьля выданьня „языковых законаў“ беларуская людnасьць пачала адчыняць прыватныя пачатковыя школы. З гэтых іменна сьвежа адчыненых **прыватных беларускіх школ зачыніла ўлада ў гэтым школьным годзе 67 школ. Цяпер засталіся ўва ўсей Заходняй Беларусі 4**—даслоўна **чатыры пачатковыя беларускія школы.** Цыфры гэтыя гавораць самы за сябе і не вымагаюць ніякіх паясьненьняў.

Распараджэньне Міністэрства Асьветы з дня 7./І. 1925 г. вызначае парадак, у якім могуць адчыняцца беларускія школы. Люднасьць падала адпаведныя **дэклярацыі на адчыненьне 412 беларускіх школ**, не гаворачы ўжо аб тым, што ў цэлым радзе выпадкаў гміны пазбаўлены былі магчымасьці высказацца за школу з роднай мовай з прычыны сабатажу з боку войтаў, як сьведчаць аб гэтым паданыя намі ў гэтай справе соймавыя інтэрпэляцыі. Ня гледзячы на гэтае **стыхійнае выступленьне насяленьня** за беларускую школу, да гэтай пары **ні адна беларуская школа ня была адчынена—даслоўна ні адна!** Школьныя інспэктары сабатуюць языковыя законы і не дапускаюць да адчыненьня беларускіх школ, тлумачучыся... нястачай адпаведных пэдагагічных сіл. Адак жа Беларусь мае сотні выкваліфікаваных вучыцялёў, якія гвалтам і абманам былі высланы ў карэнную Польшчу.

Шавінізм польскае ўлады да таго бязьмерны і хітры, што навет „языковыя законы“, якія гавораць аб нацыянальным школьніцтве, зрабіліся **аружжам душэньня беларускіх школ.**

У восень 1922 году перад выбарамі ў Сойм і Сэнат беларускае вучыцельства было паведамлена аб арганізаваньні для яго на кошт дзяржавы „dokształcających“ пэдагагічных курсаў. Гэта быў падвойны ўдар, зроблены ўладаю. Гэткім чынам забралі з краю на час выбараў нацыянальна-сьвядомых адзінак, а скончыўшыя „dokształcające“ курсы былі высланы ў мясцовасьці нацыянальна польскія, дзе да сёньняшняга дня **працуе каля 200 беларускіх вучыцялёў—у такіх акругах, як Кракаў, Лодзь, Рава-Мазавецкая, Чэнстахоў, ваяв. Пазнанскае і г. д.** А тым-часам беларуская люднасьць дарма дамагаецца ў 27 павятах адчыненьня беларускіх школ—школьныя інспэктары адгаварваюцца нястачай адпаведных пэдагагічных сіл.

Беларускія вучыцялі прыкуты да сваіх школ на

# Яшчэ аб Аутакефальным безгалоуі.

**Або, як выконываюцца на мейсцы пастановы Сыноду Праваслаўные Царквы ў Польшчы.**

(*Голас „шчырага праваслаўнага“*).

Зноў мы зварачываемся да справы Віленскае Праваслаўнае Духоўнае Сэмінарыі. На апошняй сэссіі Сьв. Сыноду Праваслаўнае Аўтакефальне Царквы ў Польшчы, якая адбывалася перад Калядамі ў Варшаве, разглядалася і справа Віленскае Сэмінарыі.

Перад самай сэссіяй Сыноду ў Варшаву езьдіў з дакладам да Мітрапаліта Дзяніса новы пан Дырэкар „упаньствовёнэй“ Сэмінарыі Леон Беляўскі. Не вядома, якія справы на гэтай „канфэрэнцыі“ абгаварываліся... але ўрэшце Сынод звольніў 4-х вучыцялеў Сэмінарыі, пазаставіўшы за тое п. Беляўскага до канца школьнага году на становішчы Дырэктара...

Сярод звольненых Сынодам зьявіліся: вучыцель гісторыі п. Арцемьеў, вучыцель грэцкае мовы п. Амбургэр, вучыцель беларускае мовы пан Абрамовіч Зыгмунд і вучыцелька прыродазнаўства п. Гайковічова. Так сама Сынод пастанавіў вярнуць на лацінскую мову звольненнага Кураторыумом п. Харашкевіча, а вызначанага на яго мейсца п. Тэадаровіча перавесьці на грэцкую мому. На беларускую мову Сынод прапанаваў п. Паўловіча, беларуса по нацыянальнасьці і старога пэдагога. На гэтай-жа сэссіі Сыноду была прынятая і прынцыповая пастанова аб тым, што ў Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі могуць быць вучыцялямі толькі асобы праваслаўныя, апрача прадметаў з „полёністыкі“...

Але ўсе гэтае было пастаноўлена ў Варшаве... Паглядзім, як стаіць гэтая справа на мейсцы, у Вільні.

Школьная ўлада, відаць, ня дужа лічыцца з пастановамі Сыноду, хоця-ж-бы і Аўтакефальнае Царквы ў Польшчы, бо ўжо распачаліся пасьля Каляд заняткі ў Сэмінарыі і ўсе... засталося пастарому: пан Амбургэр (немец-лютэранін) — як выкладаў грэцкую мову, так і выкладае, пан Абрамовіч („беларус“-каталік) — ня ўступіў свайго мейсца пану Паўловічу, скончыўшаму Кіеўскую Духоўную Акадэмію; не вярнуўся ў Сэмінарыю на лаціну і пан Харашкевіч. Толькі пані Гайкавічова „зостала ўсунента“, але і на яе мейсца Кураторіум вызначыў новага вучыцеля так сама паляка (відаць, згодна з пастановай Сыноду?). За тое атрымаў платны „ўрлёп“ да канца школьнага году праваслаўны вучыцель п. Арцемьеў і ўжо ня ходзіць больш у Сэмінарыю на лекцыі; а на яго мейсца прыслалі з Варшавы нейкага новага вучыцеля, ня гледзячы на тое, што Сынод выставіў свайго кандыдата пана Смаржэўскага...

Цікаўна, як будзе рэагаваць на ўсё гэтае Сынод „Аўтакефальнае“ Праваслаўнае Царквы ў Польшчы. А мо' і прамаўчыць, памятаючы аб старай пагаворцы: „пакорнае цяля дзьвёх матак сьсець“...

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаем гэту заметку, як цікаўны матэрыял да характарыстыкі рэлігійнае палітыкі польскага ўраду наагул.

---

найважнейшым чарговым пытаньнем для Чэха-Славакіі зьяўляецца супрацоўніцтва з ССРР.

Ведама-ж, аднэй гэтай спрэчнай справы даволі дзеля таго, каб распалася штучна зьлепленая „Малая Антанта“.

На 20-га лютага назначана ўжо нарэшце паўгоду адкладаная (якраз з прычыны адносінаў да ССРР) канфэрэнцыя Малай Антанты. Канфэрэнцыя можа ўжо і высьветліць да канца зацягнуўшуюся спрэчку.

### Ультыматум Чычэрына кітайскаму ўраду.

У кітайскай толькі па назову, а фактычна захопленай Японіяй Манчжурыі ўзгарэўся востры канфлікт між мясцовымі ўладамі і прадстаўнікамі ССРР на Усходня-Кітайскай чыгунцы, якая мае вялікае значэньне для ССРР.

Падбураныя японскімі агентамі кітайскія вайсковыя часьці пачалі рабіць напады і гвалты на гэтай чыгунцы, якая расейска-кітайскай умовай аддана пад загад радавай улады. У апошнія дні канфлікт на чыгунцы дайшоў да таго, што кітайскія ўлады заарыштавалі начальніка чыгункі Іванова, назначанага ССРР, і назначылі свайго кандыдата, хаця расейскага інжэнера, але—ворага радавага ўраду... Гэта выклікала востры пратэст пасла Радаў у Пэкіне, Карахана, які пагразіў — заняць чыгунку войскам ССРР. Калі гэта не памагло, дык тады сам Чычэрын выслаў пэкінскаму ўраду ўльтыматум (рашучае і срочнае трэбаваньне), каб у 3 дні парадак на чыгунцы быў вернены згодна з умовай. Калі-ж кітайскі ўрад сам бяссільны гэта зрабіць (ведама-ж, бяссільны!), дык тады—хай ён упаўнамоцніць ССРР зрабіць парадак... Радавы ўрад чакае безадкладнага адказу...

Што зробіць бяссільны пэкінскі ўрад Туана, ня ведама. — У кождым разе пагражае сутычка дзьвюх фактычных сілаў на Далёкім Усходзе — ССРР і Японіі.

### Канфлікт на Далёкім Усходзе.

Японія, якая адкрыта захапіла пад сваю ўладу ўсю Манчжурыю, афіцыяльна пратэстуе проці ўваходу ў Манчжурыю чырвоных войскаў. На запытаньне аднаго з сэнатараў, японскі міністар загранічных спраў адказаў, што палажэньне ў Манчжурыі наагул паважнае, што Японія зорка сачыць за канфліктам між ССРР і Кітаем і ў патрэбны мамэнт прыме свае меры.

### Узнаўленьне вострага байкоту англійскага гандлю ў Кітаі.

Англійскія купцы і прамыслоўцы ў Кітаі зьвярнуліся да свайго ўраду з заявай, што ўвесь англійскі гандаль у Кітаі вісіць на валаску. Калі англійскі ўрад не дапаможа, дык яны будуць усе пабіты канкурэнцыяй Японіі і Амэрыкі.

---

# ХРОНІКА.

**Аб адрэсаваньні пісьмаў пабеларуску.** Паводле распараджэньня аб мове ў паштовых, тэлеграфных і тэлефонных зносінах у ўнутраным абароце на абшарах ваяводзтваў: Палескага, Віленскага, Наваградадзкага і паветаў Горадзенскага і Ваўкавыскага, Беластоцкага ваяводзтва, адрэсы на звычайных пісьмах можна пісаць пабеларуску кірыліцай, папольску-ж павінна быць напісана **толькі пошта**. Гэтак сама можна пісаць адрэсы, пішучы з другіх абшараў Польшчы ў памянутыя беларускія землі.

Тэлеграмы можна пісаць пабеларуску **толькі лацін'кай.**

У тэлефонных гутарках можна карыстацца таксама беларускай мовай.

Кожны беларус павінен скарыстацца з гэтага распараджэньня і паслугоўвацца роднай мовай на пісьмах. Трэба браць ўсё магчымае, паказаць, што мы пісаць пабеларуску хочам і не прапускаем ніводнае магчымасьці, каб скарыстацца хоць з прымітыўных сваіх правоў.

**Беларускі адрыўны календар на 1926 г.** На днях выйдзе з друку ў другім выданьні пасьля канфіскацыі беларускі адрыўны сьценны календар на 1926 г.

Календар багаты цікавым літэратурным зьместам, з праваслаўнымі і каталіцкімі сьвятамі; друкаваны кірыліцай (гражданкай) і лацінікай. Трэба адзначыць, што ў першым выданьні календар вышаў яшчэ ў кастрычніку, але з прычыны канфіскацыі выходзе ў сьвет у новым выданьні толькі цяпер.

Кожны сьведамы беларус мусіць купіць свой календар, каб падтрымаць свае выдавецтва, каб паказаць, што хоць познае, але сваё міла і неабходна!

**З жыцьця Студэнтаў-Беларусаў.** У нядзелю 17. І. 26 г. адбыўся чарговы калежжскі рэфэрат у сваей сямье Студ.-Беларусаў. Прачытаў рэфэрат Кал. А. Зянюк на тэму: „Крызіс парлямантарызму“. Пасьля рэфэрату адбылася гарбатка і скокі.

---

## Беларуская Кнігарня

**Вільня, Завальная вул. 7**

просіць усіх ніжэйпададзеных асоб прыслаць паўторныя сьпіскі на заказаныя кніжкі, бо ня гледзячы на тое, што грошы даўно атрыманы, аднак-жа сьпіскаў кніжак, якія былі высланы разам з грашыма, да гэтага часу няма, як відаць усе гэтыя сьпіскі пагінулі на пошце.

Сьпіскі кніжак не атрыманы ад гэтакіх асоб: Грыцука Якава—в. Крулёўскі Мост, Вербіцкі Міхал — в. Масева, Тыменя Іван—в. Яшэвічы, Ясіньскі Л.— п. Лэнчыца, Літвінчык Павал—в. Збочкі, Кішко А. — п. Індура, Бекеш Міхал—в. Літва, Кішэнь Андрэй— п. Шаркаўшчына, Вінцукевіч—в. Оханава, Захажэўскі Кізімір—в. Жукоўшчына, Харабурдава Ганна—п. Лапы, Вернікоўскі Язэп—п. Кажангарадак, Лашэвіч Янка — Горадня, Крупнік Уладзімір—в. Залесьсе.

---

## Эвалюцыя беларускай адраджэнскай ідэалёгіі і адбіцьце яе у літэратуры.

**(Лекцыя А. Луцкевіча).**

У мінулую нядзелю грам. Луцкевіч прачытаў для Беларускага Студэнцкага Саюзу публічную лекцыю на пададзеную ў загалоўку тэму.

У гадзіннай прамове лектар адзначыў галаўныя этапы ў разьвіцьці беларускае адраджэнскае ідэалёгіі, пачынаючы ад пачатку XIX ст. Першыя шляхоцкія пісьменьнікі, хаця і былі настроены дэмакратычна і навет проці прыгону, не адважаліся, аднак, сваімі творамі будзіць самадзейнасьць беларускіх сялянскіх масаў, баючыся, каб ідэі Вялікае Францускае Рэвалюцыі, якімі шляхта захаплівалася „для сябе“, не паднялі народных масаў да рэвалюцыі. Дык гэныя першыя творы ў беларускай мове —пераважна дыдактычныя, ідэйна бедныя.

Бадай, першым пісьменьнікам, які лічыў патрэбным будзіць актыўнасьць сялянства, зьяўляецца Сыракомля: ў вершу з 1848 году ён вітае рэвалюцыйныя падзеі на Захадзе і заклікае беларускую масу разам з шляхтай выступіць на барацьбу з панаваньнем Расеі. Дзеля гэтае-жа мэты ў 1863 г. працуе сярод беларускага сялянства Костусь Каліноўскі, аўтар цэлага раду беларускіх рэвалюцыйных лістовак з заклікам да паўстаньня, хаця ў канцы захопліваецца і ідэяй самога адраджэньня беларускага народу. Дзеля „бунтаваньня“ народу зварачаюцца да яго пабеларуску і народнікі, але і яны ідэал бунтарскі злучаюць з нацыянальным, хаця апошні разумеюць вельмі вузка— як адраджэньне толькі мовы.

Да самадзейнасьці, да актыўнасьці і барацьбы клічуць масы і адраджэнцы пачатку XX веку, але ўжо ў імя шырокіх сацыяльных і нацыянальных ідэалаў. Працоўны ідэал выліваецца ў форме сацыялізму, нацыянальна — пашыраецца і паглыбляецца да ідэі ня толькі культурна-нацыянальнае, але і дзяржаўнае самастойнасьці. І клічуць да працы дзеля зьдзейсьненьня гэтых ідэалаў ужо не інтэлігенты, клясова адарваныя ад масы, а сыны вёскі, косьць ад косьці і кроў ад крыві беларускіх сялян і работнікаў.

Вялікая Рэвалюцыя на Усходзе давяршыла папярэднюю працу. Маса сталася запраўдным гаспадаром на сваей зямлі, і пачынаецца пэрыад запраўды-ж масавага ўчасьця ў тварэньні роднае літэратуры.

Вось, паступовае адбіцьцё гэтых этапаў у беларускай літэратуры і адмаляваў прамоўца ў сваім выкладзе, адзначыўшы, што найвялікшыя літэратурныя цэннасьці ў беларусаў паўсталі, як сынтэз абедзьвюх ідэалёгіяў беларускага руху: сялянскае і работніцкае. Найярчэйшым доказам гэтага зьяўляецца творчасьць Янкі Купалы. Лектар адзначыў так-жа, што найнавейшая літэратурная творчасьць маладога пакаленьня беларускіх пісьменьнікаў не зьяўляецца ані выключна сялянскай, ані выключна работніцкай: „маладыя“ таксама чуюць сябе „дома“ **ў беларускім ужо месьце,** як і на вёсцы.

Саля была поўная слухачоў, пераважна студэнцкае моладзі.

**Х. Б.**

---

## Перайманьне народнага.

*Маёй маці.*

Да Пятра зязюленька  
Ў лесе кукавала;  
Да шлюбу Гануленька  
Весела сьпявала.  
Ды гуляла, цешылась,  
Не хапала ночы.  
Ой, вячоркі—веселасьць!  
Ой гады дзявочы!...  
Мінула зязюленькі  
Ў лузе жыраваньне;  
Сьцішала Гануленькі  
Пры бацькох сьпяваньне.  
Ня цьвіці ты, зелейка  
Рута-мята ў садзе—  
Ўбралі Ганну ў белейка,  
Садзяць на пасадзе.  
— Ой, каханы татачка,  
— Рыеш на што яму,  
— Выдаеш дзіцятачка  
— За нялюба замуж?!  
— Ой, матуля родная,  
— Чым табе няміла?  
— Ці была нягодная,  
— Ці не дагадзіла?  
Чула сэрца чулае,  
Не ўблагаеш просьбай.  
Выдаюць патулае  
Татка з мамкай грозьбай.  
Пойдзе кветка польная  
Ў сьвет чужы, за сьветы  
Праклінаць бяздольныя  
Маладыя леты.

**Уладзімір Жылка.**

---

# Карэспандэнцыі.

**„Dożywotna rada gminna“.**

(Малая-Бераставіца, Горадзенскага пав.).

Аб пекным назове „самаўрад“ штосьці і ў Сойме, здаецца, калісь гаварылі, штось ухвалялі і запісалі ў „кнігу пратаколаў“ толькі для каго ўсё гэта—ня ведаем?!—Можа дзе ў этнаграфічнай Польшчы і істнуюць самаўрады, хоць і там, як чуваць, з гэтым „туга“; — але ў нас, у Заходняй Беларусі, дык аб гэтым і гаварыць няма чаго. — У нас гміна — гэта „хфальварак п. Старосты“, а войт — гэта эканом гэтага хвальварку, назначаны тым жа старостам! А калі не, — дык кіруе ею якісьці абшарнік гэтае гміны!

Аб гэтым ужо ўсе ведаюць, хто толькі чытае беларускія газэты, і гаварыць аб гэтым можа і ня прыходзілася-б,—але ёсьць у чалавека гэткія больки, што аб іх проста, здаецца, неабходна трэба сказаць ці—лепей—крыкнуць; — тады на сэрцы мягчэй робіцца, душа капельку супакоіваецца, што не адзін ты аб гэтым бясправі і няпраўдзе ведаеш, а ведаюць аб ім усе!

Вось дзеля гэтага і я трохі хачу сказаць аб сваей гміннай радзе — гэтым клясычным „самаўрадзе“.

Ніхто не памятае—нават тыя, што вярнуліся ў 1920 годзе з Расеі, — кім, як і калі выбіралася нашая Мала-Берастравіцкая гмінная рада. І маем цяпер нязьменны і несьмяротны гэткі яе склад: „na czele“ яе стаіць пан абшарнік Ваўкавыскі, які і верхаводзіць усім жыцьцём у гміне. А „człon-

kowie“ рады вось што з сябе прадстаўляюць: адзін з іх—Памфіл Тапчылко з в. Каменка—з мятлою і рыдлёукаю заўсёды „urzęduje“ ў гміне, але ніколі ня бывае гмінным радным. Рэшта „członków“—або дзеля „honoru“ сядзяць розам з п. Ваўкавыскім, або іншыя—паддонкі грамадзянства, — што калісь мелі супольна з войтам нейкія „цёплыя“ інтарэсы і належаць да вясковай „арыстакраты“. Яны, каб ня страціць ласкі ў гэтага нана, служаць мёртвым аружжам абшарніка, зьяўляюцца на паседжаньні толькі дзеля кворума, каб падаць галасы за тое, чаго хоча п. Ваўкавыскі.

I гэтак гэтыя „інтэлігенты—арыстакраты“, хоць і пасыўна, дзяруць розам з п. Ваўкавыскім скуру з нашага гаротнага брата селяніна і п'юць яго кроў!—

Што робіць „гмінная рада“, ніхто ня ведае, толькі даведваемся аб падатках, якімі абкладае нас—сялян гэная рада. — Тут ідэальнае царства спакою, цішыні і згоды! — Усе, як пад гіпнозам, робяць тое, што кажа п. Ваўкавыскі; гэтак пры выбарах новага войта, калі п. Ваўкавыскі напісаў прозьвішча Дудка, дык усе зрабілі тое-ж самае!

I—ясна—гэта Дудка будзе трубіць — на пакадку п. Ваўкавыскага—у сваю дудачку тое, што скажа яму абшарнік!

Гэтак сама, як выбары войта, аднагалосна і бяз спрэчак прайшоў бюджэт гміны на 1926 год.— Бюджэт у ліку 22.000 зл., з якога:

7.000 на паліцыю, (а ў нас іх аж 5!)

8.000 на гміну а 7.000 дэфіцыту за мінулы год.

Плацім мы ўсялякія падаткі „państwowe“ і розныя ссыпкі, дый яшчэ трэба гэтыя 22.000. I гэта мусяць заплаціць сяляне гміны, полова вёсак якой зьніштожана вайной, а людзі сядзяць у зямлянках, і галодная сьмерць так і шчэрыць зубы!

I нашыя радныя не пасьмелі слова сказаць проці гэтага, каб не папсаваць „dobrych stosunków“ з начальствам! Ганьба ім!

Вось, якая наша рада! Гэта наймацнейшы „габінэт“ у Польшчы, які залажыўся за часоў п. Пілсудскага і перасядзеў усе польскія ўрады і ўлады! **Кавальскі.**

## Добры прыклад.

(Вёска Алашкі, Пастаўскае гміны).

Прахаджу я цераз вёску, бачу: стаіць грамада мужчын на вуліцы і аб чымсьці вядзе гутарку.

— Добры дзень, грамадзяне?—вітаю іх.

— „Добры, добры дзень“ — разам адказываюць некалькі галасоў.

— Што, сяньня сьвята ў Вас?

— „Сьвята і не абы якое яшчэ“ — хваліцца дзядок з грамады. I, адзін аднаго перабіваючы, як быццам кожнаму трэ' было хутчэй выліць сваю радасьць, што відаць было па міне іх, загаварылі:

„Янка... ня вытрымаў... прышоў ізноў да нас... ня будзе калечыць нашых дзетак... не смакуюцца грошы і г. д.

— Але-ж я нічагусеньні не разабраў з вашага гоману. Мо ляпей ты, дзядуня, раскажаш мне адзін?— зьвярнуўся я да першага з грамады. Раскашчык, абапёршыся аб балясіну і крыху падумаўшы, пачаў паволі апавядаць знаёмыя беларусу „байкі“.

— „Цяжка было калісьці (а цяпер ляпей? — чуваць голас у грамадзе). Пасьля міру, які хтосьці зрабіў у Рызе, мы былі выкінуты, як абгрызеныя косткі на сьметнік, скуль мог нас схапіць першы бадзялы“...

Раскашчык затрымаўся, уздахнуў.

— „Тады, як усе народы рыхтуюцца зрабіць і зрабілі самі сабе лёс,—мы, беларусы, жывем на ласцы лёсу! Ніскуль ратунку, ніскуль братняй рукі помачы... Ну, проста хоць ня жыві на гэтым апастылым сьвеце.

Тутака ізноў затрымаўся.

— „Наша інтэлігенцыя, якая лічыла сябе правадырамі вёскі, у цяжкую пару нашага жыцьця паўцякала ў Расею, а застаўшаяся—на службе ў „жонду“ за блішчучымі казырамі. Гледзячы на другіх, паехаў на курсы ў Кракаў і наш настаўнік, жыхар нашае вёскі, Янка Сікора, які, як Юдаш, меў нас прадаваць. Але, дзякуй Высокаму Богу, павярнуў яго ізноў да нас, бо, бачучы нашыя мукі, ня вытрымаў і падаўся да дымісіі, каб дзяліць з намі і гора і радасьць“.

— Як, Янка Сікора атрымаў дымісію?

— „Атрымаў і цяпер ужо ня „вучыць“ нашых дзетак“.

Чэсьць табе, браце! Ты прышоў да нас яшчэ ня позна. Няхай твой прыклад змусіць падумаць і другіх, што ім рабіць!..

Чэсьць і табе, грамада! Ты сваім „мужыцкім“ розумам здалела, калі вам рабіць сьвята!..

— **Падарожны.**

## Рэлігійнае жыцьцё.

(М-ка Дзятлава, Слонімскага павету).

Ад канца вайны настаяцелем праваслаўнае царквы тут зьяўляецца сьвяшчэньнік ацец Камар. Трэба сказаць праўду гэты сьвяшчэньнік з добраю чулай душою,—на ўсе царкоўныя трэбы адзываецца палюдзку, так, што бяднейшаму селяніну ўсётакі даступна згаварыцца з ім ў цане. Ня маючы ў сабе тае вялікае панскае фанабэрыі, якую маюць амаль што ня ўсе папы, ён заслужыў у сваіх прыхаджан пашану, як добры пастыр.

Аж нешта ў канцы 1925 г. давялося пачуць ад яго папраўдзе нешта новае. Іншыя гаварылі, што ён захварэў цяжка на так-званую „панскую хваробу“, якая здаўна зьвіла сабе ў нашым краю вялікае гняздо. Пад яе цяжарам на Коляды ён у сваёй прамове парасейску пачаў злосна крытыкаваць беларускіх дзеячоў, называючы іх працу няўдалай выдумкай, якая нічога ня варта, дзеля таго, што знаходзіцца ў апазіцыі да польскай дзяржаўнасьці. „У беларускай прэсе—гаварыў ён— заўсёды чуеш нараканьні на тое, што Урад накладае на нас непамерныя падаткі. Падаткі мы павінны плаціць ахвотна, хоць самыя найвялікшыя, бо і сам наш вучыцель Хрыстос, жывучы на зямлі, плаціў іх“.

Забыўся „добры пастыр“, што многа такіх людзей, якія павінны прадаць апошнюю кароўку, каб быць свабодным ад іх!

За гэтыя і ім падобныя выступленьні ў расейскай мове, якая абрыдла сялянам горш печанай рэдзькі, яго ўсе дужа ня ўзьлюбілі. Але, вось на Новы Год па ст. ст. узрадаваў усіх быўшых ў царкве яго малодшы брат, які хутка будзе сьвяшчэньнікам, сваей беларускай прамовай. З якім зацікаўленьнем была праслухана яна людзьмі, на гэта ня хопіць слоў апісаць. Усе, хто выходзіў з царквы, калі адбываліся казаньні ў расейскай мове, якую вясковыя сяляне не разумеюць, цяпер проста душылі адзін другога, каб праціснуцца і пачуць родныя словы, якія гэтак міла гучэлі ў царкоўным будынку, напаўняючы сэрца незямною радасьцяй. Былі кабеты, што проста плакалі з радасьці, чуючы роднае слова, якое для іх было зразумела і міла для слуху.

**Н. Жальба.**

## „Айцы духоўныя“.

(М. Глыбокае, Дзісенскага пав.).

Здаецца ўжо няраз пісалі ў белар. газэтах аб нашых „сьв. айцох“ і іх уплывах на жыхарства асабліва на моладзь! Ад гэтых уплываў людзі патроху перастаюць хадзіць у царкву. Моладзь дык асабліва карыстае з гэтых уплываў!..

Надовячы адзін хлапец напіўся добра, а на натацыю маткі адказвае:

— Э! грэху няма ніякага! Хіба ты ня бачыла ўчора айца Пятра, ці дзяка, або псаломшчыка!..

I сапраўды нашы „айцы“ п'юць зашмат!..

А п'ючы—адбіваюць ахвоту прыхаджан хадзіць у царкву. А кожны добра ведае, што, як няма даходу — дык наступае крызіс фінансаў. У сучасны момант у нашых „айцоў”—як і ў Польшчы, крызіс фармальны!.. як яны гавораць. Але няпраўда, што крызіс, бо прыход вялікі, а дзяруць добра ў прыпадку шлюбу, хрысьцін і нат хаўтуроў. А каб ня ўпусьціць месца, дык бацюшка (ах, праўда! іх у нас аж два!) ганяць сваіх прыхаджан, што ня ходзяць у царкву, не клапацяцца аб яе рамонце і г. д.

Праўда, царква наша запушчана, і рамонт яе рупіў прыхажан, але цяпер дык і ахвота адпала.

19./XII. 1925 г. адпраўляў наш айцец Пётра вячэрню... ды так шчыра, што аж словы шукаў у кішані, але дзякуй дзьдзяку, які меў больш моцную галаву і ўвесь час падказываў бацюшцы, што казаць. А як нёс бацюшка Эвангельле, — дык так апошняе цудам неяк не апынулася на падлозе. I так-сяк адтарабанілі?!!!...

Ну і ратуй тут сваю душу! Больш награшыш, як намолішся!..

Праўда, другі айцец Мікола благачынны за вельмі шмат клапаціцца аб сваім зямным раі, але ўсё-ж-такі можа служыць прыкладам, як духоўнік, бо гарэлкі зусім ня п'е і службу адпраўляе добра.

I тыя духоўнікі давалі айцу Міколе падпіску, што ня будуць больш піць,—але гэта падпіска памагла, як мёртваму кадзіла.

А прыхаджане пагаварываюць: раней трэба адрамантаваць служыцеляў, а пасьля прыступіць да самое царквы. **Прыхаджанін.**

## Вясковая хроніка.

(Гміна Пацаўская).

Апошнімі часамі ў нас дзеюцца дужа цікавыя рэчы. Так, напр., у вёсцы Лудзіч Пётр Верабей хацеў утапіць сваю жонку. У той час, як яна брала ваду, ён, падкраўшыся, за ногі перакінуў яе ў студню; з прычыны таго, што вады было мала, яе адратавалі небегшыя суседзі, а ён ад страху перад карай павесіўся.

# З Радавае Беларусі.

## На район—сямёхгодка!

**Менск.** У сучасны мамэнт па ўсіх акругах БСРР налічваецца 237 сямёхгодак, але большасьць іх знаходзіцца ў местах. Дзеля гэтага Народны Камісарыят Асьветы маніцца ў найбліжэйшым часе адчыніць цэлы рад новых сямёхгодак з такім рахункам, каб на кожны район (б. воласьць) прыпадала ня менш аднэй сямёхгодкі.

Дзяцей малодшага веку ахоплена школамі ў 1925—26 годзе ў местах—94 проц., у вёсках—68 проц.

## Правядзеньне нацыянальнае палітыкі.

**Полацк.** Пленум АВК пастанавіў больш рашуча праводзіць беларусізацыю. Усім установам тэрмінова скласьці плян пераходу ўсяго апарату на беларускую мову да вызначанага 2-ой сэсіяй ЦВК 6-га скліканьня тэрміну. Усякі савецкі працаўнік, які можа гаварыць на беларускай мове, павінен выступаць пабеларуску.

Кожная савецкая ўстанова павінна мець газэту „Сав. Беларусь“. У газэце „Полацкі Араты“ зьмяшчаць 50 проц. беларускага тэксту, а ў далейшым трымаць курс на канчатковы пераход на беларускую мову.

Абавязковыя пастановы друкаваць у газэце пабеларуску.

Правесьці безадкладна праверку ведаў беларусазнаўства ўсім працаўніком устаноў, якім тэрмін скончыўся, або канчаецца.

## Прырост насяленьня.

Водлуг вестак ЦСУ за першыя 4 м-цы 1925 г. у БСРР зарэгістравана 50,027 нараджэньняў. З гэтага ліку на вёску падае 46.820 ч.

Прырост насяленьня Беларусі за 1924 г. складае: па гарадох 19 ч. на тысячу жыхароў, а па акругах—29 на тысячу жыхароў.

## Гаспадарскія справы.

Белсельсаюз вядзе перагаворы аб набыцьці для Беларусі 2.000 каней, якія будуць прадавацца на мясцох ня вышэй рынковых цэн.

З рассадніку птаства „Пяцеўшчына“ (ў Меншчыне) Нар. Камісарыят Зямляробства распачаў водпуск птушак арцелям, камунам і паасобным грамадзянам. Сярод гэтых птушак заслугуюць увагі куры-мінорکі, гусі і качкі найлепшага мясцовага гатунку, чорныя індыкі і інш.

---

У вёсцы Савіч, папіўшыся, хлопцы завяліся біцца. Бойка вялася на ваенны лад, дык адзін ужо ў зямлі, другі няведама ці вылячыцца, трэйці-ж на ўрадавым хлебе ў Слоніме.

У сяле Вянзовцы на калядныя сьвяты забіты куляй Казімер Бомбэр; вінаватых покуль-што незнайшлі.

У вёсцы Александровічы за падаткі войт Пацаўскае гм. з паліцыяй уначы забралі ў аднаго чалавека чатыры капы жыта, у другога карову, ў трэйцяга сячкарню і г. д.

Вось дык прыйшоў час! **Н. Ж.**

# Усячына.

## Падлога з паперы.

У Амэрыцы пачынаюць усё шырэй ужываць для падлогі заместа драўляных дошчачак—папяровую масу. Гэткія падлогі аказаліся шмат ў чым лепшымі за драўляныя. У іх няма шчылін, у якіх награмаджаецца пыл, мікробы, а знача і хваробы. Апрача таго, яны ляпей чымся дзерава глушаць усялякія шумы і гукі, а таксама кепска праводзяць цяпло. Урэшце папяровая падлога дзешавей драўлянай.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінкеўскі.** Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.